Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 31 (83) | Вільня, 26-га лістапада 1935 г. | Год 3-ці.

## Аб падзеях на Далёкім Усходзе.

Не ўваходзячы ў разгляд таго, як і чым можа кончыцца італьянска-абісінская вайна, ужо цяпер можна заўважыць, што яна зрабіла пэўныя зьмены ў існаваўшых дасюль адносінах між большымі дзяржавамі Эўропы, а перадусім узмоцніла пазыцыю Нямеччыны. Вось чаму апошнія дватры месяцы ўвага ўсяго сьвету зьвернена на італьянска-абісінскую вайну і ўсё іншае адышло на другі плян. А між тым адначасна ў міжнародным жыцьці трапляюцца здарэньні часамі ня менш важныя, чымся вышэй успомненая вайна, здарэньні, якія могуць зьмяніць у будучыні міжнароднае палажэньне. Такім здарэньнем можна лічыць тое, што ў сучасны мамэнт адбываецца на Далёкім Усходзе. Газэты пішуць, што 5 паўночных акругоў Кітаю намерыліся аддзяліцца ад цэнтральнага кітайскага Ураду, творачы аўтанамічную адзінку з асобным урадам, са сталіцай у Пэкіне. Праўда, кітайскія аўтанамісты нібы ня зрываюць канчальна з нанкінскім урадам, аднак у першую чаргу яны будуць старацца ўтрымліваць добрыя адносіны з Японіяй, якая бязумоўна будзе распараджацца ў гэным краі так, як распараджаецца ў Манджурыі. Ізноўжа выразны антыкамуністычны настрой кітайскіх аўтанамістых найлепш сьведчыць аб тым, па чыёй думцы творыцца новая аўтанамічная адзінка на абшарах Кітаю, якая зьяўляецца ўжо ажно трэцяй такой адзінкай (Манджурыя, Унутраняя Манголія). З утварэньнем такіх аўтанамічных адзінак Японія ступае цьвёрдай нагой на азіяцкі мацярык, адрэзваючы зусім Савецкую Расею ад Сярэдняга і Паўдзённага Кітаю, ці наагул ад Кітаю і выціскаючы з Кітаю ўплывы іншых дзяржаваў, як Англіі, Злучаных Штатаў ды Францыі. Мамэнт для правядзеньня сваіх плянаў Японія выбрала адпаведны, бо-ж Англія занята, праўда, пакуль што пасярэдня, афрыканскай вайной і ня можа перашкодзіць Японіі ў яе плянах. Найбольш зацікаўленая ў гэных падзеях Савецкая Расея пакуль што ўступае перад Японіяй, аб чым сьведчаць хоць-бы факты прадажы Усходня-Кітайскай чыгункі ды слабы пратэст супроць японскай палітыкі ўва Унутранай Манголіі. Цэнтральны нанкінскі ўрад, заняты змаганьнем з камуністычнымі паўдзённымі акругамі, таксама ня зможа аружна выступіць супроць Японіі і, як пішуць апошнія газэты, можа нават згадзіцца на протэктарат Японіі над усім Кітаем, баючыся пашырэньня камуністычных уплываў.

Такім чынам на Далёкім Усходзе ствараецца досыць дзіўнае палажэньне: Японія, меншая за Расею ў 30 разоў і за Кітай у 16 разоў, захапляе ўсё новыя і новыя кітайскія землі бяз ніякай перашкоды, ствараючы гэтым пагрозу ў Кітаі і наагул у Азіі інтарэсам найвялікшых дзяржаваў сьвету, як Англіі, Расеі, Злучаных Штатаў. Ня зможа стрымаць Японіі і Ліга Нацыяў, якая ня здолела спыніць вайны ў Афрыцы, тым больш, што Японія з Лігі выйшла і мае вольныя, нічым ня зьвязаныя рукі.

Пасьпехі Японіі тлумачацца ў першую чаргу яе вайсковай ды эканамічнай сілай, а таксама путаніцай у міжнародных адносінах. Ня меншую ролю адыгрывае і спрыт японскіх палітыкаў, умела выкарыстоўваючых пасьляваенныя настроі масаў, у якіх на першы плян выступаюць імкненьні да самастойнага жыцьця.

Як бачым, у сучаснай міжнароднай палітыцы пануе старое правіла — **хто дужы, той заўсёды знойдзе апраўданьне для сваіх і нязусім праўных паступкаў**.

## Колькі ў Польшчы аўтабусаў?

Галоўны Статыстычны Урад апрацаваў падлічэньне пасажырскае міжгараднае камунікацыі ў Польшчы ў пачатку бягучага году.

У Польшчы ёсьць 620 аўтабусных прадпрыемстваў, у тым ліку і аўтабуснае прадпрыемства Польскіх Дзяржаўных Чугунак, якое абслужвае 43 лініі, а рэшта прадпрыемстваў — 825 аўтабусных лініяў; з гэтага ліку на абшары лодзінскага ваяводзтва 155, пазнанскага—129, *беластоцкага* – 82, келецкага—85, варшаўскага — 73, львоўскага—46, кракаўскага—44, люблінскага—63, валынскага—29, *наваградзкага* –27, паморскага—23, сілезкага—18, *віленскага*—17, *палескага*—16, станіславаўскага—15, тарнопальскага — 3. Аўтабусныя прадпрыемствы маюць агулам 1.386 аўтабусаў, у гэтым ліку 59 аўтабусаў на аўтабусных лініях Польскіх Дзяржаўных Чугунак.

Даўжыня дарог, па якіх езьдзяць аўтабусы, складае разам 20.391 кілёмэтр.

## Бюджэтны прэлімінар на 1936-37 г.

ПАТ паведамляе, што прыняты радаю міністраў бюджэтны прэлімінар Польшчы на будучы 1936-37 г. поўнасьцю зроўнаважаны. У параўнаньні з леташнім бюджэтам на 1935-36 г. агульная сума даходаў зьменшана блізка што на 180 мільёнаў злотых, а таксама падвышаны расходы ўсіх тых аддзелаў бюджэту, у якіх, з увагі на неабходнасьць спаўненьня дзяржаваю яе задачаў і абавязаньняў, прэлімінаваныя дасюль расходы былі нізкаватымі.

Праведзены вялікія ашчаднасьці. Аднак-жа яны не закранулі зусім бюджэту міністэрства вайсковых справаў і толькі нязначна закранулі бюджэт міністэрства рэлігійных вераваньняў і публічнае асьветы, каторыя зьменшаны на які-небудзь 1 працант. Паменшаньне гэтае не пацягне за сабою ані паменшаньня ліку школаў, ані ліку настаўнікаў, як і ліку дзяцей, якія вучацца ў дзяржаўных школах.

Бюджэтны прэлімінар на 1936-37 г. замыкаецца з боку даходаў агульнаю сумаю 2.237.171.000 злотых і з боку расходаў сумаю 2.237.121.000 злотых, даючы гэткім чынам выразнае, хоць і невялікае, перавышэньне даходаў над расходамі ў суме 50.000 зл.

Як даходы, так і расходы ў новым бюджэце, бяручы на вока, зьяўляюцца большымі за даходы і расходы леташняга бюджэту, але гэта таму, што новы прэлімінар бюджэту розьніцца з дасюлешнімі бюджэтамі тым, што ён абыймае сабою ня толькі даходы і расходы брутто адміністрацыі, але таксама паступленьні і расходы фондаў, за выняткам кватэрнага вайсковага фонду і фонду працы, якія і цяпер увайдуць у бюджэт сальдамі нэтто.

Калі ад вышэйназваных цыфраў адняць суму брутто расходаў і паступленьняў фондаў, дык тады параўнальныя з бюджэтам на 1935-36 г. сумы расходаў і даходаў на 1936-37 г. будуць раўняцца каля 2.145.000.000 злотым. Сума гэтая ў расходах ёсьць меншаю ў параўнаньні з леташнім бюджэтам больш як на 23 мільёны злотых, з тым аднак-жа, што урэзкі ў паасобных пазыцыях зьяўляюцца значна паважнейшымі, а розьніцу зьмяншае факт ўрэальненьня расходаў. Бо агульны бюджэт дасюлешніх расходаў зьменшаны на якіх 46 мільёнаў злотых праз ашчаднасьці і скарочаньні. Але таму, што адначасна ўрэальнены расходы на эмэрытуры і абслугу даўгоў, пабольшваючы расходы ў гэтых абодвух аддзелах на 23 мільёны зл., дык агульная сума расходаў у новым бюджэце, у параўнаньні з цяпер выконваным бюджэтам, выражаецца ў паменшаньні расходаў на вышэйназваную суму 23 міл. злотых.

У бюджэце і проекце скарбовага закону зарэзэрвованы дастатачныя сумы на акцыю, зьвязаную з *падтрымліваньнем земляробскае прадукцыі і экспортам земляробскіх прадуктаў*, з падтрымліваньнем гандлёвае экспансіі, а таксама на мэты грамадзкае апекі і на мэты вядзеньня работ з фонду працы.

## ПРАТАКОЛ

паседжаньня Міжарганізацыйнай Камісіі 18 лістапада 1935 г. у складзе прадстаўнікоў — ад Таварыства Беларускай Асьветы у асобах гр. гр С. Караля, У. Манкевіча, А. Сакаловай-Лекант, К. Глінскага, Хв. Ільяшэвіча, ад Беларускага Дабрадзейнага Таварыства ў асобах гр. гр. Я. Шнаркевіча, А. Флерава, І. Галяка, Б. Кіты а таксама запрошаныя сябры б. Корпарацыі „Skorinia" у асобах гр. гр. Маркевіча П. Шчаснага і А. Мюльлера.

Сход адчыніў Старшыня Таварыства Беларускае Асьветы гр. С. Кароль, інфармуючы прысутных, што прычынай сkліканьня прадстаўнікоў ад вышэй успомненых арганізацыяў на супольнае паседжаньне паслужыла пісьменная заява гр. Р. Астроўскага аб яго зрачэньні сяброўства ва ўсіх беларускіх культурна-грамадзкіх арганізацыях, да якіх належыць, у сувязі з пастановай Грамадзкага Суду ў справе канфлікту гр. Р. Астроўскага з гр. гр. А. Луцкевічам, А. Трэпкай і У. Самойлай. На прапазыку гр. Караля выбраны аднагалосна Прэзыдыюм сабраньня у такім складзе — старшынёй І. Галяк і сэкрэтаром А. Мюльлер.

Старшыня сабраньня прачытаў пастанову Грамадзкага Суду, пасьля чаго зьвязаная з гэтым дыскусія выясьніла, што гэная пастанова сфармулявана так, што дае магчымасьць шырокага яе тлумачэньня, бо-ж у ёй не паказаны матывы, на аснове якіх яна была прынята. У сувязі з гэтым сабраньне пастанавіла зьвярнуцца да гр. Р. Астроўскага з просьбай прыслаць ў камісію адпаведныя дакумэнты, каторыя могуць сцьвердзіць беспадстаўнасьць закідаў стаўляных гр. гр. Луцкевічам, Трэпкай і Самойлай гр. Астроўскаму і якія былі прадстаўлены ў Грамадзкі Суд. Да мамэнту атрыманьня дакумэнтаў старшыня сабраньня зрабіў перарыў паседжаньня.

Па атрыманьню патрэбных актаў старшыня ізноў адчыніў паседжаньне і Камісія прыступіла да падрабязнага разгляду гэных актаў, у рэзультаце чаго адбылася ўсебаковая дыскусія, злучаная з гэным пытаньнем, пасьля якой сабраньне аднагалосна прыняло наступную рэзалюцыю:

1) закіды, стаўляныя гр. гр. Луцкевічам, Трэпкай і Самойлай гр. Астроўскаму ў справе нясумленнага вядзеньня фінансавых спраў у беларускіх грамадзкіх арганізацыях за пэрыяд часу ад 1930 г. да 1934 г, зьяўляюцца беспадстаўнымі і нязгоднымі з праўдай, аб чым сьведчаць прадстаўленыя гр. Астроўскім дакумэнты;

2) адносіны гр. Астроўскага да паасобных беларускіх дзеячоў, асабліва-ж да беларускай студэнцкай моладзі, заўсёды былі на належнай вышыні і аніякага дэмаралізуючага ўплыву рабіць не маглі;

3) дапамогі, атрымованыя гр. Астроўскім, ішлі выключна на па-

(Гл. на 2 ст.).

Пасьля разгляду радаю міністраў прыгатоўленага ўжо скарбовага закону на 1936 37 бюджэтны год, проект гэты разам з прынятым бюджэтным прэлімінарам будзе ўнесены ў законадаўчыя палаты.

трэбы культурна-грамадзкіх арганізацыяў, за працу ў якіх гр. Астроўскі аніякай платы ня браў, выконваючы працу ў іх ганарова, чым выказваў сваю грамадзкую абавязкавасьць;

4) гр. Астроўскі заўсёды атуліваў асаблівай бацькаўскай апекай вучнёўскую беларускую моладзь, даючы ёй магчымасьць выйсьці ў людзі, каб пазьней працаваць для дабра свайго краю;

5) як сярод старэйшага беларускага грамадзянства, так і сярод моладзі, якія супрацоўнічаюць даўжэйшы час з гр. Астроўскім, апошні мае вялікую пашану і паважаньне, як выдатны грамадзкі дзеяч;

6) так званыя сэкрэтныя дапамогі беларускім установам ня могуць абцяжваць гр. Астроўскага, бо-ж культурна-грамадзкія беларускія арганізацыі маюць роўнае права з падобнымі-ж польскімі арганізацыямі карыстацца з дзяржаўнага скарбу на свае неабходныя патрэбы. Ня віна беларусаў, што Польскі Урад ў свае дасюлешнія бюджэты ня ўносіў адпаведных пазыцыяў на беларускія культурна-грамадзкія арганізацыі, выдаючы ім дапамогі з дыспозыцыйных сумаў, што ўсім ведама і ні для каго не зьяўляецца сэкрэтам.

Адначасна прысутныя, як правамоцныя прадстаўнікі вышэй успомненых беларускіх арганізацыяў, пастанавілі зрачэньня сяброўства гр. Астроўскім у гэных арганізацыях ня прыймаць да ведама і прасіць гр. Астроўскага застацца дзейным сябрам у тых арганізацыях, прадстаўнікамі якіх зьяўляюцца прысутныя на сходзе.

Старшыня (—) І. Галяк.

Сэкрэтар (—) А. Мюльлер.

Прысутныя: (—) С. Кароль, (—) У. Манкевіч, (—) К. Глінскі, (—) Я. Шнаркевіч, (—) А. Флёраў, (—) А. Сакалова-Лекант, (—) Хв. Ільяшэвіч, (—) Б. Кіта, (—) М. Маркевіч, (—) П. Шчасны.

## Беды журналістага ў Абісініі.

У той час, як газэты штодня гудуць тэлеграмамі аб італьянскіх перамогах у Абісініі, з таго боку фронту—з абісінскага тэатру вайны—весткі зусім слабыя.

Чаму гэта так выходзіць?

На гэтае пытаньне знаходзім, не пазбаўлены жывога гумару, адказ у артыкуле спэцыяльнага корэспондэнта „Gazety Polskiej" д-ра Багдана Рыхтэра, прысланы ім з абісінскае сталіцы Адзіс-Абэбы.

Даволі сказаць, што ўжо з тыдзень назад д-р Рыхтэр зьмясьціў вельмі цікавую сваю корэспондэнцыю з Абісініі аб вялікім парадзе вайсковах сілаў, прынятым нэгусам у Адзіс-Абэбе. Рэдакцыя паясьніла, што даехаўшы да Абісініі, корэспондэнт яе моцна захварэў і ня мог падаць ніякае весткі пра свой лёс. Каб знайсьці д-ра Рыхтэра „Gazeta Polska" выслала новага супрацоўніка гр-на Янту-Полчынскага. Тымчасам д-р Рыхтэр паправіўся і апісвае запраўды невясёлае, на эўрапэйскі пагляд, палажэньне ваеннага корэспондэнта абісінска-італьянскага фронту.

У артыкуле „Niedole dziennikarza w Abisynji" д-р Б. Рыхтэр, паміж іншым, расказвае:

— Сталіца Пераможнага Юдэйскага Льва ляжыць ад аднаго фронту ў 350 кілёмэтрах, а ад другога ў 450 клм.—адлежнасьць адносна нязначная, якая не павінна быць перашкодаю ў атрымліваньні пэўных і шыбкіх вестак з пляцу бою, як з Поўначы (Адуя), так і з Паўдня (Огадэн). Гэта-ж у часе сусьветнае вайны нью-іоркскія газэты друкавалі найсьвяжэйшыя ваенныя весткі адначасна з газэтамі Парыжу і Лёндану.

— Тут у нас,—піша корэспондэнт,—аднак-жа ёсьць іначай. Тут адлежнасьць ня лічыцца на кілёмэтры, а на дні, якіх патрабуе вестка, каб дайсьці з фронту да нашых вушэй. Пэўна-ж і тут існуе тэлеграфная сувязь, хоць і ня з усімі аддзеламі і незаўсёды спраўная. Маем да найважнейшых цэнтраў нават тэлефоны, але ўсё гэта выключна для ўрадовага карыстаньня. Няма пры гэтым аднолькавае арганізацыі службы сувязі і кожны большы камандзер тэлеграфуе тое, што ён лічыць важным. Адзін даносіць аб найменшых здарэньнях штодзеннага лагернага жыцьця, другі—чакае з данясеньнем да капітальнае перамогі. Урад зусім не зьяўляецца скорым, каб дзяліцца з сваімі грамадзянамі атрымліванымі весткамі. Штодня на будынку Прэсавага Бюра (прызначанага для заграничных корэспондэнтаў) вывешваецца кароткі ваенны бюлетэнь і канец на гэтым. Але з гэтага бюлетэню прагавіты не сэнсацыю журналісты, якія марыць аб перасыланьні тысяч выражэньняў штодзень, няшмат чаго можа даведацца

Скажаце там у Варшаве, што, апрача ўрадовых тэлеграфных вестак, павінны існаваць таксама і прэсавыя весткі, весткі хоць-бы паштовыя абодвух фронтаў. Што абавязак журналістага ісьці з перадавымі аддзеламі, стаяць у агні куляў і гранатаў, пісаць пад грукат кулямётаў, каб справаздача яго пераліла на газэтныя шпальты хоць крыху жывое, гарачае баявое атмосфэры.

Згаджаюся. Залажэмся на момант, што стаю ў агні шрапнэляў, што чарапкі і кускі гранатаў дзяруць мне паперу на калене. Што я пераліў на паперу ўсю баявую атмосфэру, якая мяне абкружае. Але што я маю з гэтаю пaпераю зрабіць? Палявое пошты няма. Найбліжэйшы паштовы аддзел ёсьць у Адзіс-Абэбе, ад якое мяне аддзяляе (калі прымем, што стаю пад Адуяй) 12 дзён дарогі. І то толькі ў тым найшчасьлівейшым выпадку, калі заложымся далей, што я паміж Дэсіе і сталіцаю маю ўласную самаходную службу. Бо інакш, дык маё пісьмо будзе ісьці да сталіцы не 12, а 23 дні, а з сталіцы да вас таксама пяруном не заляціць.

Але нажаль не магу згадзіцца на заклад, што стаю ў шрапнэльным агні і гэта з тае простае прычыны, што эфіопскі ўрад дасюль нікому—падчыркваю з усім націском — *нікому* ня даў пазваленьня выехаць на фронт.

Скажаце, што, ў гэткім выпадку, абавязак амбітнага журналістага—дайсьці да ўладаў,- атрымаць „у крыніцы" ўсе патрэбныя яму весьці.

Яшчэ раз—згаджаюся. Большасьць сабраных тут журналістых гаворыць толькі паангельску, 99 процантаў эфіопскіх саноўнікаў гаворыць паамгарску, гальля, паарабску, часамі пафранцуску, паітальянску. Ваш корэспондэнт ёсьць яшчэ ў тым шчасьлівым палажэньні, што мовы для яго не зьяўляюцца запораю. Да найвышэйшых уладаў, дзякуючы рэкамандацыйным пісьмам і дзякуючы ўплывовай помачы найвыдатнейшых сяброў польскае калёніі, дайшоў. Гаварыў пра Польшчу, пра Эфіопію, пра слабасьць Лігі Народаў, пра неабаснованы італьянскі напад, пра пагоду, адзіс-абэбскія отэлі і цэннае здароўе. Але як толькі зачапіў вайну, дык даведаўся якраз гэтулькі, колькі ўжо ведаў з прэсавага бюлетэню, прыбітага на дзьверах Прэсавага Бюра...

Наколькі абісінцы трымаюцца тайнасьці, корэспондэнт „Gazety Polskiej" сьцьвярджае гэткім прыкладам:

— Але пазвольце, што раскажу малую гісторыйку. Калі Мэнэлік Вялікі памёр, дык эфіопскі ўрад у працягу 13-ёх гадоў трымаў гэтую вестку ў тайне і ня толькі жыхары сталіцы, а і эўрапэйскія пасольствы (каторыя-ж маюць і свае разьведачкі!) нічога ня ведалі аб гэтым, эпохальным для Эфіопіі, здарэньні...

Жаліцца д-р Рыхтэр, што нічога нельга даведацца і з абісінскае прэсы, якая абмяжоўваецца дзьвюма амгарскімі „газэтамі" і адною француcкаю.

Затое цікавы адбываецца гандаль весткамі ў чыста ўсходнім стылі.

— Попыт на „аўтэнтычныя" весткі вялізарны,— піша д-р Рыхтэр.—А жалезны эканамічны закон кажа, што попыт стварае падачу. Дык падача ёсьць. Асабліва з боку Грэкаў і Армян, каторых тут, як і на ўсім Усходзе, ёсьць вельмі шмат. Усе яны атрымалі з найнеабмыльнейшых крыніцаў найнеабмыльнейшыя весткі. Або нехта напісаў прасьцютка з фронту (прычым пісьма перанясьлі найвідочней ангелы), або прыехаў дзьве гадзіны назад, або ізноў маюць яны прыяцеля на Гіббі (Акрополь, Крэмль), каторы бачыў дэпэшу, даручаную імпэратару ці прынамсі ваеннаму міністру. А часам крыніца гэтак высокая, што акрываецца яна ценем тайны.

І журналістыя, асабліва тыя фунтова-далярныя, што гавораць толькі „englisch" і адрэзаныя ад усяго адзіс-абэбскага сьвецiку мурам гэтае мовы, — купляюць. І добра плацяць. Таксама і за найсьвяжэйшыя фатаграфіі з пляцу бою, праданыя ў Адзіс-Абэбе (made in Addis-Ababa) на іх карыстаньне, або з... 20 гадоў назад...



# СЯРОД КНІГ.

*W. Adwažny. „Chlapiec", повесьць.* Вільня, 1935. Выдавецтва „Беларускай Крыніцы". Повесьць В. Адважнага, якая выйшла нядаўна асобнай кніжкай, друкавалася даўгі час у газэце „Беларуская Крыніца" і таму шмат хто яе ўжо прачытаў „на раты". Цяпер-жа, маючы перад сабой цэласьць, можна лягчэй ацаніць гэты твор.

Сюжэт повесьці зачэрпнуты з рэлігійных і нацыянальных суадносінаў на Беларусі ў пачатку XX сталецьця. Тэма ўвесь час выключна і разьвіваецца ў пляне гэтых суадносінаў. Малы хлапец Вінцусь хоча вучыцца. Ён канчае пачаткавую школу. Пасьля маці яго пасылае ў гарадзкую школу, дзе гэты „Вундэркінд" (цудоўнае дзіця) усьведамляецца нацыянальна. Інспэктар школы заганяе каталікоў хадзіць у царкоўны хор. Хлапцы ня йдуць.Інспэктар пачынае сьледства. Маці Вінцуся Ганулія, на дапросе ў інспэктара прыпадкова прагаварываецца, што забараняе хадзіць у царкоўны хор ксёндз Марціноўскі (рэнэгат, які ў сэмінарыі зьмяніў сваё прозьвішча Марцук на польскае). Інспэктар робіць данос. Марціноўскага высылаюць у кляштар. Уся віна падае за гэта на Ганулю й яна ад мучэньняў памірае. Вінцука бярэ да сябе арганісты Харашуха, які раней няўдачна сватаўся да яго маці (ўдавы).

Гэта галоўная нескладаная тэматычная вось повесьці, вакол якой дачапляюцца пабочныя інтрыгі і сытуацыі, абмалёўкі быту і прыроды. Сюжэт зусім няцікавы і аўтар адчувае гэта. Таму ён пушчае ў сюжэт нацыянальную і рэлігійную хварбы, разьлічаючы гэтым выклікаць большы эфэкт. Повесьць поўная рэлігійных, маральных разважаньняў аўтара, „лірычных" адступленьняў, якія выклікаюць у чытача няпрыемнае ўражаньне. Здаецца, што гэта нейкае „казаньне" ці брашура. На пары старонках аўтар гаворыць аб курэньні тытуну, пачынаючы ад яго гісторыі, хімічнага складу і канчаючы на розных пажаданьнях курцам, як: „каб-жа ваша сэрца курэла, мае вы людцы!" Такіх павучэньняў, нашпікованых анэмічным, простым гумарам, у повесьці шмат і часам хочацца аўтару повесьці таксама вылічыць некалькі беларускіх праклёнаў.

Тэма разьвіваецца няўмела. Чытач проста нудзіцца і ные, чакаючы нейкай акцыі, нейкіх інтрыгаў, нейкага руху. А нарэшце, калі ўжо, здаецца, акцыя пачынаецца, то яна так спэцкана, так ня вытрымана, што зусім не захапляе. Аўтар кіруе асобамі, як яму падабаецца і часта, каб не сапсаваць свае штучнае пабудовы сюжэту, зазначае: „Ну, але аб гэтым скажам другім разам".

Псыхолёгічна повесьць зусім ня вытрымана. Мы ўласьціва ня маем ніводнае рэальнае зарысоўкі характару. Відаць, што аўтар ня зжыўся з сваімі гэроямі, не пазнаў іх, якімі яны ёсьць, а проста ўдзьмухнуў у іх тыя псыхолёгічныя постаці, якія сам стварыў у сваёй фантазіі. Ня жыцьцё кіруе аўтарам, а аўтар хоча кіраваць жыцьцём. Характары аўтар так будуе, каб яны памагалі яму разьвіваць тэму. Усю, напр., трагэдыю бацькі ксяндза Марціноўскага аўтар зводзіць да браку табакі. Стары Марцук, калі служыў у чэха, кінуў курыць. А цяпер, калі патрэбна завязка конфлікту, ён ня можа без табакі абыйсьціся. Гэты хоць-бы прыклад найлепш ілюструе псыхолёгічную плыткасьць аўтара, які ня ўмее рэальна маляваць чалавека.

Часта ўводзяцца розныя асобы проста, каб напхаць повесьць публікай. Галоўны-ж герой повесьці хлапец Вінцук увесь час знаходзіцца на апошнім пляне. Аўтар яго часам выцягне за ручку на сцэну, каб ён сказаў пару словаў, а пасьля трэба чакаць ізноў з цярпеньнем яго выступленьня. І чытач урэшце пытаецца: чаму повесь названа „Хлапец", а не „Гануля" або „Ксяндзы", ці неяк інакш. На пачатку выступае хлапец адразу як „цудоўнае дзіця" ў гутарках маці з старым дзедам Матусэвічам. Цікава, чаму маці радзіцца ў гэтага „старога хрэна", калі яна зьяўляецца зусім сьвядомай асобай, калі ёсьць больш разумныя людзі, калі пасьля яна на гэтага-ж дзеда гневаецца за яго рады. Далей мы бачым хлапца ў касьцеле, дзе ён, ня глядзячы на частыя прабываньні ў ім, стаўляе пытаньні маці, як-бы першы раз сюды трапіў. Тут ужо ён робіцца звычайным хлапчуком. Далей мы ўжо можам дагадацца, па якой лініі пойдзе ўся акцыя. І сапраўды, аўтар трыумфальна кіруе сваю повесьць па гэтай лініі. Як дзеючая асоба выступае і певень, які з курамі жыве такім-жа духовым жыцьцём, як і людзі. Як жыве Вінцук, што ён думае, што ён робіць—мы амаль і ня ведаем. Есьць у повесьці трохі няўдалай капіроўкі з Т. Гушчы (лірычныя адступленьні), а „работа" расейскае школы зусім прыпамінае „Syzyfowe prace" С. Жэромскага.

Вінцусь, такі кволы, слабы хлапец, усё-ж не памірае, як гэта пераважна здараецца з такімі сялянскімі дзяцьмі. Ен мусіць жыць, бо ён—герой повесьці. Урэшце ён мусіць зрабіцца ксяндзом. Повесьць перапоўнена ксяндзамі, арганістымі, гаспадынямі ксяндзоўскімі. Прытым аўтар хоча тэндэнцыйна паказаць вялікае нацыянальнае значэньне ксяндзоў у адраджэньні бел. народу (як гэта было ў ліцьвіноў) на пачатку XX ст. Спэцыяльна ён зьвязывае гэтую ролю з асобай Фр. Багушэвіча. Наагул—усе ксяндзы, усе дзеці, нават стары Марцук—такія сьвядомыя нацыянальна, што проста прыходзіцца дзівіцца. Сьвядомасьць ксяндзоў проціўстаўляе аўтар несьвядомасьці праваслаўнага духавенства, якое паказана ў ад'емным сьвятле: дзяк — п'яніца, які гаворыць у карчме прамо-

краіны Паўночнае і Паўдзённае Амэрыкі зьмяншаецца з году ў год; таксама і ў бягучым годзе лік гэты вельмі малы: у Аргентыну выехала каля 2.500 чалавек, у іншыя краіны Амэрыкі, каторыя даўней заўсёды зьбіралі да сябе вельмі паважны лік эміграптаў з Польшчы, як напр. Злучаныя Штаты, Канада, Бразылія, — выехала каля 1.'00 эмігрантаў (у кожную з гэтых краін) за першыя тры кварталы сёл. году.

Зусім занапаў эміграцыйны рух з Польшчы ў Францыю, куды за вышэйназваны час выехала ўсяго толькі 1.049 эмігрантаў; таксама заняпаў і—вельмі жывы раней — эміграцыйны рух у часе палявых работ у Нямеччыну, куды выехала толькі 754 чалавекі за 9 месяцаў бягучага году.

З Францыі вярнулася ў Польшчу ў бягучым годзе 28.084 чалавекі эмігрантаў, што складае каля 90 процантаў паваротнага руху жыхароў у свой край (усяго вярнулася ў Польшчу з розных краёў у бягучым годзе 30.729 чалавек).

Лічбы эміграцыі з Польшчы складаюць сягоньня нейкіх 20-25 процантаў адносных лічбаў за 1928-1929 гады.

## Прэса аб працэсе забойцаў мін. Перацкага

Некаторыя польскія газэты пішуць, што акт абвінавачаньня ў справе забойства мін. Перацкага беспасярэднюю віну закідае толькі частцы забойцаў, але затое пасярэдня абвінавачвае і літоўскага міністра замежных справаў Зауніюса. Апошні не сядзіць на лаўцы абвінавачаных, але кара яго ўсёж-такі дасягнула: яго асудзіла апінія ўсяго сьвету. Мін. Зауніюс дапамагаў грашыма тэрорыстам, якія забівалі дзяржаўных кіраўнікоў суседняй дзяржавы; даваў ім літоўскія пашпарты на прыдуманыя прозьвішчы і памагаў у атрымоўваньні замежных візаў. „Дзейнасьць“ мін. Зауніюса настолькі „кашмарная“, што няма слоў для яе акрэсленьня. Уся гэтая гісторыя сьведчыць аб тым, да якіх страшных шляхоў давяла літоўцаў ненавісьць да Польшчы.

Газэта „Час“ піша, што ў Коўні тэрарыстам даваліся фальшывыя пашпарты і візы, у выніку чаго польскія ўлады мелі вялікія труднасьці ў высьледжваньні забойцаў, якія мелі дакумэнты, ня выклікаючыя падазрэньняў. Як відаць, літоўскія міністры ня толькі аплачывалі тайных забойцаў, але і высылалі іх у Польшчу з падробленымі пашпартамі.

Такім чынам, — піша далей газэта, — Заўніюс зрабіўся супольнікам абвінавачаных і павінен сядзець разам з імі на лаўцы перад Судом. Але зусім няпраўдападобная магчымасьць выдачы яго літоўскім урадам. Яму і Канавальцу ўдаецца дасюль ухіляцца ад караючай рукі правасудзьдзя, — але яны абодва трапяць эўрапэйскі трыбунал, які іх і асудзіць. Ня можа Эўропа дапусьціць, каб у якой небудзь дзяржаве маглі знаходзіцца ў урадах супольнікі тайных забойцаў. Літва мела на ўсходзе і захадзе розных пратэктараў, якія карысталіся ёю, як сваім аружжам, але кім-бы яны ня былі. яны ўжо ня змогуць пратэгаваць далей урад і сыстэму, якія так страшна скомпрамітаваліся.

## Няўдача перагавораў аб пазычцы для СССР.

Усе стараньні Саветаў атрымаць у Англіі доўгасрочную пазыку, дагэтуль не далі ніякіх вынікаў,

Ангельскі ўрад не намераны гарантаваць заплату па савецкім забавязаньням дзеля таго, што апошні ангельска-савецкі гандлёвы дагавор аказаўся нявыгадным для Англіі.

У працягу бягучага году Савецкая Расея вывозіла з Англіі тавараў на 2.700.000 фунтаў стэрлінгаў, тады як Англія вывезла з Саветаў тавараў на 13.800.000 фун. ст. Па думцы ангельскіх купцоў, даход з гэтага Саветы мелі настолькі высокі, што выключае ён магчымасьць выдачы якой небудзь пазыкі для Савецкай Расеі.

## У Порт-Саідзе забіта 45 чалавек

23 г. м. выступленьні эгіпецкіх нацыяналістаў у Каіры, Порт-Саідзе і другіх гарадох у Эгіпце паўтарыліся з новай сілай.

У Порт-Саідзе было забіта 45 чалавек. На другі дзень у часе сутычак між студэнтамі і паліцыяй ранена 5 паліцыянтаў. Дэманстранты пабілі ў горадзе больш 300 фанароў.

У Каіры вуліцы гораду 5 гадзін знаходзіліся ў руках дэманстрантаў. Арыштавана 350 чалавек.

## Частковая дэмобілізацыя італьянскай арміі.

Як паведамляюць газэты, міністэрства прэсы паведамі а замежных журналістаў, што ў хуткім часе з італьянскай арміі будзе адпушчана 100 тыс. чалавек. Гэтая частковая дэмобілізацыя праводзіцца пад відам водпускаў для земляробскіх работаў і водпускаў салдататам, сем'і каторых знаходзяцца ў вельмі цяжкіх матэр'яльных абставінах.

У офіцыяльных кругох заяўляюць, што гэтыя меры выкліканы вынятковым палажэньнем, створаным санкцыямі. Гэтае палажэньне змушае Італію парупіцца аб магчыма большым павялічэньні вытворчасьці ў земляробстве і прамысловасьці.

Трэба падчыркнуць, что гэтае распараджэньне не абыймае тых часьцяў, якія рыхтуецца адплыць у ўсходнюю Афрыку.

Адначасна ў офіцыяльных кругох заяўляюць, што маючая адбыцца ў Парыжы сутрэча экспэртаў па абісінскаму пытаньню не разглядаецца італьянскім урадам, як палітычныя перагаворы, ці як новы этап перагавораў. Аднак, зрабіўшы гэтае заяўленьне, прадстаўнік міністэрства прэсы не пярэчыў дапушчэньням, што сустрэча экспэртаў можа мець характар падгатоўкі да больш важных перагавораў.

## Кто проціў санкцыяў?

Апошнімі днямі, ў сувязі з пачаткам дзеяньня санкцыяў, управамоцнілася інструкцыя італьянскага ўраду, якая зьяўляецца дапаўненьнем да надзвычайнага дэкрэту з лістападу аб увозе замежных тавараў.. Згодна з інструкцыямі, усе дзяржавы падзелены на 2 катэгорыі. Да 1-ай катэгорыі належаць дзяржавы, імпорт якіх ў Італію пакідаецца бяз зьменаў і падлягае папярэднім нормам. У гэтую катэгорыю ўваходзяць: Альбанія, Арабія, Аргэнтына, Аўстрыя, Болівія, Бразылія, Костарыка, Эквадор, Нямеччына, Японія, Гватэмаля, Ісландыя, Іемэн, Нікарагуа, Панама, Парагвай, Пэру, Сальвадор, Злучаныя Штаты, Гішпанія, Чылі, Урагвай, Латвія, Швайцарыя, Туніс, Марокко і Манджурыя.

Дзяржавы, якія не пералічаны ў гэтым сьпіску, твораць асобую групу дзяржаваў—учасьнікаў санкцыяў тІнстрvкцыя акрэсьліла цэлы рад. авараў, якія забараняюцца ўвозіць ў Італію з гэтых дзяржаваў.

## Абісінская нота Лізе Народаў.

У Жэнэве апублікована абісінская нота, якая была ўручана генэральнаму сэкрэтару Лігі Народаў. Нота сьцьвярджае і лжывасьць доказаў італьянскага ўраду, што быццам ён праводзіць нейкую цывілізацыйную місію ў Абісініі. Абісінскі ўрад, гаворыцца ў ноце, ведае добра італьянскіх вайсковых кіраўнікоў, якія прэтэндуюць на цывілізацыйную місію, а ў сапраўднасьці паступаюць як забойцы цывільнага насельніцтва—старыкоў, жанчын і дзяцей. Нота пярэчыць весткам, якія распаўсюджваюцца італьянскай прэсай, быццам абісінцы масова і самахвоць пераходзяць на сторану італьянцаў.

Нота канчаецца заяўленьнем, што абісінскі ўрад рашуча адмаўляецца разглядаць усякія прапазыцыі аб вырашэньні конфлікту коштам Абісініі, прапазыцыі, якія пасярэдня або беспасярэдня нагараджалі-бы нападаючую сторану за зроблены ёю праступак.

## Наступленьне абісінцаў.

Ужо ў пряцягу двух дзён, — як паведамляюць ангельскія газэты, — абісінцы наступаюць, а італьянцы змушаны бараніцца. Асабліва энэргічнае наступленьне разьвівае войска раса Сэйюма ў мясцовасьці, паложанай на поўдзень ад Макальле. Відаць, рас Сэйюм намераны ўзяць у італьянцаў Макальле назад. У самым Макальле ўжо выразна чуваць гарматныя стрэлы. Абісінскія часьці, якія змагаюцца каля Макальле, маюць спэцыяльныя баёвыя атрады, азброеныя гранатамі эўрапэйскай конструкцыі. Гэтыя атрады закідываюць ноччу італьянскія акопы гранатамі, выклікаючы перапалох у радох італьянцаў, а за гранатчыкамі сьледуе звычайна пяхота, якая атакуе ворага.

Згодна з абісінскімі дадзенымі, рас Насібу ўжо згуртаваў на Огадзенскім фронце паўмільённую армію. Рас Насібу і яго палкоўнікі выслалі нэгусу тэлеграму, у каторай просяць імпэратара не выдаваць больш загадаў аб адступленьнях.

## Паўстаньні ў правінцыі Цігрэ.

У тылох італьянскай арміі, у занятай ёю правінцыі Цігрэ, выбухлі паўстаньні. Насельніцтва нападае на слабыя італьянскія патрулі. У мястэчку Эндзерта недалёка Макальле адбываюцца крывавыя бойкі між мясцовым насельніцтвам і італьянскімі салдатамі. У выніку гэтага генэрал Бірольлі загадаў спаліць мястэчка Эндзерта. Гэты загад быў безадкладна выкананы.

## Апошнія вескі з італа-абісінскага фронту.

Па весткам нямецкага тэлеграфнага агенства, на паўночным фронце абісінцам удалося прарваць італьянскі фронт у правінцыі Цігрэ. Сувязь між італьянскімі арміямі ў гэтым раёне прарвана. Італьянцы адступаюць пад націскам абісінцаў. Атрады абісінцаў, якія дзеюць у тылох італьянцаў, абстрэліваюць адступаючых з кулямётных гнёздаў, пабудаваных на няпрыступных скалах. Страты італьянцаў вельмі вялікія.

На поўдзень ад Макальле абісінцы захапілі 24 італьянскія танкі.

——

Некалькі атрадаў абісінскіх войскаў пасоўваюцца з Джыджыгі на поўдзень, на спатканьне італьянскім войскам.

Войскі раса Дэсіа ў лічбе 45 тысячаў чалавек дасягнулі італьянскага пагранічнага поясу каля граніцы Абісініі і італьянскага Сомалі. Яны перарэзалі дарогу, якая вядзе ўздоўж ракі да Могадзішу (порт у італьянскім Сомалі).

Дапушчаюць, што спыненьне далейшага наступленьня італьянскіх войскаў на Огафенскім фронце выклікана тым, што італьянцы з прычыны манэўру раса Дэсіа не змаглі атрымаць хапаючай колькасьці салдатаў і ежы.

———

Атрады нерэгулярных італьянскіх туземных войскаў перайшлі граніцу ангельскага Сомалі, дзе нападаюць на туземцаў і адбіраюць ад іх вярблюдаў. Ангельскія ўлады ўзмацняюць граніцы Сомалі.

Па весткам з Харару, памочнік ангельскага ваеннага аташэ ў Адзіс-Абэбе і ангельскі консул у Харары пакінулі Харар, каб спаткацца з генэралам Насібу у Джыджыге. Аб мэтах сустрэчы не паведамляецца.

Італьянскія газэты цьвердзяць, што ў Джыджыгі адбылася ваенная нарада, у якой прымалі ўчасьце генэрал Насібу, прыбыўшы з Адзіс-Абэбы нэгус, ангельскі ваенны аташэ і другія эўрапэйскія дарадчыкі нэгуса.

——

Італьянскае камандаваньне пацьвярджае паведамленьне аб начным нападзе абісінцаў на італьянскія войскі, каторыя стаялі лагерам у раёне Харціен (некалькі кілёмэтраў на паўдзённы ўсход ад Адуі) Бой трываў да раніцы, пасьля чаго абісінцы адступілі у поўным парадку. Абісінцы і італьянцы панясьлі вялікія страты.

Рас Найелю на чале атрада абісінцаў у 1000 чалавек з пасьпехам затрымоўвае наступленьне італьянскіх войскаў са стараны Адуі.

У сувязі з дажджамі ў Огадзене выбухла эпідэмія трасцы, якою захварэла шмат італьянскіх салдатаў.

## Агульны фронт левых проціў нацыянальнай лігі.

Усе левыя арганізацыі далучыліся да заяўленьня соцыялістаў з прычыны здарэньняў у Ліможы. Павадыры левых партыяў рашылі разгледзіць пытаньне аб правых арганізацыях на паседжаньні парляманту і дамагацца разгляду ўсіх трох заяваў, унесеных дэпутатам Рукаром ад імя соцыялістаў у сувязі з непарадкамі у Ліможы і ад імя камуністаў—у Віліпэн.

## Дамаганьні палкоўніка Ля Рока

Палкоўнік Ля Рок, які стаіць на чале арганізацыі „Вогнены Крыж“, зьвярнуўся да прэм'ер-міністра Ляваля з пісьмом, у якім падчырківае сыстэматычныя правакацыі левых і дамагаецца пацягнуць да адказнасьці прэфэкта дэпартамэнту Одэ Віен і мэра гораду Ліможу. Апошнія забурэньні ў Ліможы, па цьверджаньні палкоўніка Ля Рока, былі выкліканы нападам левых. Палкоўнік Ля Рок дамагаецца суровых мераў для гварантаваньня бясьпечнасьці жыхароў.



Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.